

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

**Банковае конто:** Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„ |
|---|---|---|

№ 47 (381) — Нядзеля, 24 лістапада 1957 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 11

# ПЕРАМОЖАНЫЯ — ПЕРАМОЖАМ!

## Да 37-ай гадавіны Слуцкага Паўстаньня

27-га лістапада сёлета прыпадаюць 37-ыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня.

Гэты слаўны збройны чын Случчакоў, які пачаўся 27-га лістапада 1920 году, усьцяж жыве ў памяці нашага народу пад назваю паўстаньня. На самой справе, аднак, ён ня быў нічым іншым, як вайною Беларускай Народнай Рэспублікі з бальшавіцкаю Расеяй, бо, калі праводзіцца з гары заплянаваная мабілізацыя, канцэнтрацыя змабілізаванага войска й плянавая акцыя супраць ворага, што якраз і было праведзенае ў Случчыне ў 1920 годзе, дык гэта й ёсьць вайна, хай адбывалася яна ў межах аднаго толькі павету й трывала коратка.

Як ведама, Случчакі, пасьля запраўды гэраічнага змаганьня на працягу пяцёх тыдняў зь непамерна большаю моцаю бальшавіцкае арміі, фізычна былі пераможаныя. Але маральна, духова — гэта яны перамаглі ворага. Жменька ахвярных патрыётаў пераканала бо ўвесь беларускі народ, што змагацца з бальшавіцкімі гордамі можна й што збройнае змаганьне зь імі ёсьць адзіным спосабам здабыць незалежнасьць Бацькаўшчыне й сабе.

У гісторыі нашага народу Слуцкае Паўстаньне, адылі, ня было першым выпадкам, калі Беларусы, будучы пераможаныя фізычна, перамаглі маральна. Геаграфічнае палажэньне Беларусі гэткае, што яна, будучы найдалей з усіх эўрапэйскіх краінаў высуненая на ўсход, заўсёды першая прыймала ўдары заваёўнікаў з Усходу, сьпярша мангольскіх, а пасьлей — маскоўскіх прагавітых валадароў.

І вось, у сувязі із Слуцкім Збройным Чынам, прыгадваюцца два здарэньні з нашае слаўнае вайсковае мінуласьці.

Першае зь іх сягае канца 15-га стагодзьдзя. Тагачасны маскоўскі князь Іван 3-ці, назваўшы сябе гасударом усяе Русі, пачаў быў наступ супраць Вялікага Княства Літоўскага, бацькаўшчыны нашых прадзедаў. Вялікі князь Літоўскі Казімір Ягайлавіч, будучы, як кароль польскі моцна заняты заходняй палітыкай, абмяжоўваўся адно высыланьнем Маскве дыпляматычных пратэстаў. Маскоўскі напор на Літву трываў і па сьмерці князя Казімера, хоць ягоны сын Аляксандар, што пераняў па ім вялікакняскі пасад, парадніўся быў зь Іванам Трэйцім, ажаніўшыся зь Іванавай дачкою Аленай.

У 1499 годзе Іван Трэйці, не абвяшчаючы вайны, выслаў супроць Вялікага Княства Літоўскага дзьве вялікія арміі. Адна зь іх, пад камандай ваяводы Кошкіна, здабыла была Дарагабуж, пасьля чаго да яе далучыла войска Цьверскае пад камандаю князя Шчэні. Палучаныя войскі затрымаліся табарам на полі Міткі ля ракі Вядрошы, на захад ад Дарагабужу. Было іх да 40 000 коньніцы. Выставіўшы старожы, яны чакалі на далейшыя загады Івана Трэйцяга.

Вялікі Князь Літоўскі Аляксандар быў у гэтым часе ў Менску. Не атрымаўшы абвешчаньня вайны, ён ня быў належна прыгатаваны, каб даць адпор Маскоўшчыне. Сабраўшы насьпех 3 500 коньнікаў пад камандай Вялікага Гэтмана Літоўскага Князя Астроскага, ён выслаў іх напярэймы арміям Кошкіна й Шчэні.

14-га ліпеня 1499 году Гэтман Астроскі напаў на пярэднюю старожу згаданай маскоўскай арміі і цалкам яе зьнішчыў. Разагнаўшыся, ён зударыўся тады і з галоўнымі сіламі ворага. Пасьля зацятае бітвы, аднак, пераважальныя маскоўскія войскі абкружылі коньнікаў князя Астроскага. Жменька адважных рыцараў была разьбітая, а сам Вялікі Гэтман палонены. Разам з Гэтманам трапілі ў маскоўскую няволю й іншыя вышэйшыя прадстаўнікі беларускага баярства. З прычыны гэткае перамогі ў Маскве была вялікая радасьць. Калі палонныя былі туды прыгнаныя, усё жыхарства Масквы высыпалася на вуліцы, каб быць сьветкамі таго, як Вялікі Гэтман, закуты ў ланцугі, крочыў на чале даўгога пасма літоўскіх палонных. Гэтае відовішча было сумысьля наладжанае Іванам Трэйцім, каб паказаць сваім падданым вайсковую перавагу Маскоўшчыны над Літвою. Пасьля гэтага Гэтман Астроскі быў кінены ў Валагодзкі вастрог, а рэшта палонных таксама расасланая па маскоўскіх турмах.

Мінулі гады. Іван Трэйці памёр. Сын ягоны Васіль Трэйці, стаўшыся Вялікім Князем Маскоўскім, выпусьціў Астроскага з вастрогу пад умоваю, што Вялікі Гэтман Літоўскі застанецца назаўсёды ў Маскоўшчыне, на службе Васіля. Каб зазахвоціць Астроскага да лепшае службы, Васіль Трэйці даў яму баярскі тытул і падараваў вялікія маёнткі. Аднак, хоць і обдораны гэткімі «міласьцямі» Васіля Трэйцяга, Астроскі не патрапіў забыцца свае бацькаўшчыны й неўзабаве ўцёк з Маскоўшчыны, выракаючыся ўсяго падараванага яму багацьця.

Вярнуўшыся ў Літву, дзе тады княжыў Вялікі Князь Жыгімонт, Гэтман Астроскі атрымаў назад сваё становішча Вялікага Гэтмана.

Неўзабаве, у 1507 годзе, пачалася новая вайна паміж Маскоўшчынай і Вялікім Княствам Літоўскім. Вайна гэтая была доўгая й цяжкая. Маскоўскія войскі раз-па-разе ўрываліся ў межы Вялікага Княства Літоўскага, пустошачы гарады й сёлы й перабіваючы жыхарства. Канцы нападам Васіля Трэйцяга зрабіў аднак ня хто іншы, як былы маскоўскі вязень Вялікі Гэтман Астроскі. У 1514 годзе ён цалкам зьнішчыў пад Воршаю васьмідзесяцёхтысячную маскоўскую армію, бяручы ў палон самога баярына Чалядніна, які стаяў на чале ўсяго маскоўскага войска, і шмат іншага вышэйшага маскоўскага баярства. Ядро расейскае арміі было зьнішчанае і, хоць вайна скончылася адно ў 1522 годзе, Масква ўжо удачаў ня мела.

Другі прыклад таго, як пераможаныя стаюцца пераможнікамі, здарыўся ў 1558 годзе. У гэтым годзе маскоўскі валадар Іван Чацьверты Грозны неспадзеўкі напаў на Лівонію, заняў Дорпат і ўсё Дорпцкае біскупства й пачаў тытулавацца сябе «царом Лівоніі». Ня даўшы рады выкінуць маскоўскіх заваёўнікаў зь Лівоніі ляндмістр Готтард Кэтляр зьвярнуўся па дапамогу да Вялікага Князя Літоўскага Жыгімонта Аўгуста, прыракаючы за гэта паддаць Лівонію Вялікаму Княству Літоўскаму на правох леннасьці. У 1561 годзе ў Вільні адбылася нарада прадстаўнікоў абодвух гаспадарстваў, на якой была зробленая вунія, паводля якой Лівонія ўваходзіла ў склад Вялікага Княства Літоўскага, як леннае гаспадарства з дынастыяй Кэтлераў на чале. Згаданая вунія вельмі абурыла Івана Грознага. Павялічыўшы сваю армію, ён узяўся далей панявольваць Лівонію. Аднак, заваёвы ягоныя былі хутка запыненыя — Вялікі Гэтман Літоўскі Мікалай Радзівіл Руды, стануўшы на чале войскаў Вялікага Княства выкінуў маскоўскую армію зь межаў Лівоніі, а 3-га сакавіка 1562 году Вялікі Гэтман прыняў у Рызе ад ляндмістра Кэтляра, біскупа Рыскага й іншых прадстаўнікоў лівонскіх прысягу на вернасьць Вялікаму Княству Літоўскаму.

Пабачыўшы, што вайна зь Лівоніяй прайграная, Іван Грозны зьмяніў сваю стратэгію й ударыў з усходу на Вялікае Княства Літоўскае. Восеняй 1562 году маскоўскія разьезды зьявіліся пад Шкловам, Воршай, Дуброўнай і Віцебскам. Вялікі Гэтман Радзівіл перанёс сваю гасподу зь Вільні ў Менск і паслаў літоўскія разьезды пад Дарагабуж, Веліж ды Смаленск. Тымчасам саракатысячная армія Івана ішла на Нэвель, мяркуючы заатакаваць Полацак ад поўначы. Высланы Радзівілам напярэймы ёй невялікі аддзел пад камандай ротмістра Лясьнеўскага, вельмі ўдалым манэўрамператапіў маскоўскую армію ў непраходных багнах Нэвельскае пушчы, Князь Андрэй Курбскі, які вёў маскоўскае войска на Нэвель, баючыся нямінучага пакараньня яго Іванам Грозным за загубу шматтысячнае арміі, дабраахвоць пайшоў у палон Вялікага Княства Літоўскага.

У студзені 1563 году сам Іван Грозны на чале 80 000 коньніцы, 200 тысячаў пяхоты й 200 гарматаў абкружыў Полацак і пачаў яго здабываць. У гэтым часе ў Менску да Вялікага Гэтмана Радзівіла Рудога далучыліся зь невялікімі аддзеламі войска Віленскі ваявода Ян Радзівіл і гэтман польны Грыгор Хадкевіч. Разам удалося сабраць каля 3 500 жаўнераў. І гэтая жменька, пад камандай Вялікага Гэтмана Радзівіла пайшла ратаваць загрожаны Іванам Полацак. Не дайшоўшы якія восем вёрстаў да Полацку, Вялікі гэтман і ягоныя вайскоўцы затрымаліся. Яны не спадзяваліся сутыкнуцца з гэткаю вялікаю арміяй ворага й таму бязрадна прыслухоўваліся здалёк, гарматнім грымотам ды сачылі ўначы чырвоную пагару ад пажараў падпаленага Полацку. Бараніў Полацак ваявода Давойна. Калі маскоўцы дашчэнту выпалілі места, Давойна й жменька адважных абаронынікаў зачыніліся ў замку. Іван-жа Грозны, сабраўшы ўсе сілы, павёў на яго атаку.

Пасьля даўгога абстрэлу замку з гарматаў, у сьцяне ягонай быў зроблены вылам. Аднак, абароньнікі не здаліся, а залатаўшы вылам чым далося, працягвалі зацятае змаганьне. Згубіўшы надзею здабыць Полацкі замак боем, Іван Грозны загадаў абароньнікам паддацца. Зламаныя нясупынным змаганьнем, страціўшы надзею на падтрыманьне звонку, абароньнікі Полацку зажадалі ад Івана Грознага прырачэньня, што ён пусьціць іх на волю. Іван Грозны ім гэткае прырачэньне даў, паклаўшы свой подпіс на ім. Пасьля гэтага абароньнікі склалі зброю й 15-га лютага 1563 году Іван Грозны ўрачыста, як і належыць пераможніку, уехаў у старую сталіцу Крывічоў — слаўны Полацак.

Прырачэньне выпусьціць абароньнікаў Полацку на волю Іван Грозны датрымаў толькі ў дачыненьні да невялікае лічбы Палякаў, што былі ў замку разам з нашымі людзьмі. Усю-ж беларускую шляхту, між якою былі й прад-

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

Натальля Арсеньнева

## Сыны й Маці

**У Слуцкія ўгодкі нашым блудным сыном прысьвячае**
**Аўтар.**

Як загусткі крыві, пурпурныя лісткі
губляе лістапад — кульгавы старац зь кіем...
і зноўку устаюць у думках Случчакі,
гэроі,
гэткія, як мы тут,
не такія...
Мы — Бацькаўшчыну любім шчыра ўсе.
Так прысягае з нас, прынамся, кажны сяньня.
Хто сьніць Яе —
сівым аўсяньнем у расе,
хто —
крыжам з галіны над наспаю пяшчанай...
Хто зноў —
крыніцаю у зрубе, што зарос
па бровы мохам цёмным,
хто —
рачулкай,
дзе мые й мые косы вербалоз,
ці —
міртай на вакне ў вузенечкім завулку...
Ды хто —
ужо й ня сьніць...
Што-ж купіш тут за сны,
хай найбалей сабе у сьвеце залатыя?
Шукаюць сыці, сыці
блудныя сыны,
Айчыны пястуны, дуронікі,
і тыя...
Напяўшы цяглiцы той —
цягне камяні
на новае гняздо,
балі спраўляе, сьвяты...
Той —
закарэў душой,
ушчэнт паблытаў дні,
каб тлустым чарвяком выласваць птушаняты...
Што ім Тваё ніўя,
рамонкі на мяжы,
сасоньнікі,
зязюль куваньне на сьвітаньні?
Трымцівым посьпехам нутро сыноў дрыжыць,
зайздроснай прагаю разгойданыя сяньні...
Усе
ад усяго, што ім ня тхне грашмі,
зь нясмакам шчырым лена вернуць пысы.
Ты,
Маці Беларусь,
і Твой упойны міт —
для іх адно сівы,
даўно астыглы прысак...
А Ты...
усьцяж стаіш...
Выцягваеш далонь...
і просіш...
белая сама з пакуты, стыду...
Ня шмат Табе дасюль хай марны грош дало...
Ня стой-жа!
Не прасі!
Вазьмі мяча ці дзіду
і бі іх, Маці, бі і дзідай і мячом
у сэрцаў шэрае, амшэлае каменьне,
бі,
аж павісьне рук зламанае суччо
і зросяцца крывёй замлелыя калені,
аж сьхіліцца сьцяблом падцятым на плячук
мяккая шыя,
крык заціснуўшы удушны,
аж скруціць сьцяглы боль агідны,
а ўваччу
шасьцівым рабаччом заварушыцца вусьціш!
Была галоднай Ты...
ці даў хто напару
Табе кусок? Ці стан
Твой ахінуў рызманьнем?
О, Маці,
Маці,
Маці Беларусь!
Дык бі іх,
бі за ўсё,
за ўчора і за сяньня,
за тое, што сваіх,
маўляў ваўкі руёй,
за горла ўзяўшы, йрвуць,
нязгодныя, а згодна,
за зраду бі, і зман, і ёлкі супакой,
калі за ўсіх крывёй
Ты ўся плывеш заўсёдна!
Ды...
высьлізнуўся меч зь нядужае рукі...
Закрыўшы вочы зрэбнай палатнінай,
як столькі іх ужо рабіла праз вякі,
сумуе Маці,
горка так,
па блудным сыне...
А над сьлязьмі Яе
пурпурныя лісткі
зрывае лістапад —
крывавы старац зь кіем —
і ўпарта устаюць у думках Случчакі,
гэроі,
гэткія, як мы тут,
не такія.

**Нью-Ёрк, Лістапад 1957 г.**

### АД РЭДАКЦЫІ

**У сувязі з тым, што фінансавае палажэньне нашага Выдавецтва значна пагоршылася й няма надзеі на ягоную хуткую паправу, Рэдакцыя змушаная спыніць зьмяшчаць на бачынах «Бацькаўшчыны фотарэпрадукцыі з жыцьця й дзейнасьці беларускіх установаў і арганізацыяў на эміграцыі. У выпадку, калі тэй ці іншай арганізацыі моцна залежыць на зьмяшчэньні фотарэпрадукцыі зь ейнае дзейнасьці, дык гэта можа быць зроблена за кошт дадзенае арганізацыі, якая адначасна з фотаздымкам павінна прыслаць належнасьць за клішэ. Цана клішэ наступная: шырынёй у вадну газэтную шпальту — 20 нямецкіх марак, шырынёй у дзьве шпальты — 35 ням. марак і шырынёй у тры шпальты — 50 ням. марак. У сувязі вышэйшым высыланьне фотаздымкаў без адначанай аплаты за клішэ нямэтазгоднае.**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

# Бунт на беларускім савецкім Парнасе

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

стам», але й звужаньне г. зв. «нацыянальнае формы», як адзінага афіцыяльна дазволенага нацыянальнага атрыбуту ў разьвіцьці беларускае культуры.

Стараннае выхалашчываньне зь беларускае культуры ўсіх яе самабытных і апрычоных элемэнтаў, нішчэньне й апаганьваньне беларускай нацыянальнай традыцыі ды падцягваньне беларускага культурнага працэсу пад агульна абавязваючы назоўнік «савецкая культура», якая штучна будуецца на расейскай нацыянальнай базе, прывяло да таго, што гэтая беларуская «сацыялістычная» культура асталася беларускай толькі некаторымі сваімі азнакамі. І таму яна ўзапраўды адарвалася ад жыцьця народу, як чужы й непатрэбны для яго хлам.

Гэткае ненармальнае становішча меў адвагу сьцьвердзіць найбольш станоўча паэта Максім Лужанін, аб выступленьні якога чытаем у газэце «Літаратура і Мастацтва»: **«За апошні час, адзначыў у сваім выступленьні М. Лужанін, у літаратуры мала паяўляецца выразных нацыянальных характараў. У лепшым выпадку з твору даведваемся, што дзея адбываецца ў Беларусі. Гэта заўважаецца і ў тэатральным і выяўленчым мастацтве. Тут часамі карыстаюцца чыста вонкавымі азнакамі — вышыванай кашуляй і арнамэнтам».** На гэтым, нажаль, і абмяжоўваецца расхваленая «нацыянальная форма», як адзіны й галоўны атрыбут нацыянальнае культуры. Усе-ж іншыя аснаўныя азнакі гэтай «нацыянальнай формы», як тыповыя беларускія характары гэрояў, іхная апрычоная псыхалёгія, нацыянальныя пачуцьці й патрыятычныя перажываньні старанна затушоўваюцца й штучна падганяюцца пад агульны манэкін, якому на імя — «савецкі чалавек». Зьнікаюць таксама й такія важныя элемэнты нацыянальнае формы, як нацыянальны калярыт краіны або своеасаблівасьці беларускага народнага жыцьця. Усё гэта робіць літаратурныя вобразы ненатуральнымі, беднымі і шаблённымі, якія ня могуць выклікаць у чытача глыбейшага ўражаньня.

Пісьменьнікі зь ня меншай адвагай выступілі і ў вабароне найбольш беспасярэднай азнакі «нацыянальнае формы», якой зьяўляецца родная мова. Успомнены паэта Лужанін правільна адзначыў, што **«далейшае разьвіцьцё нашай культуры самым цесным чынам зьвязана з разьвіцьцём і пашырэньнем беларускае мовы».** Сьцьвердзіўшы, што беларуская мова ўсякімі спосабамі выганяецца з публічнага й прыватнага жыцьця краіны і заменьваецца расейскай мовай, паэта выказаў сваё, — ды разам з тым, пэўне-ж, і ўсіх іншых беларускіх пісьменьнікаў шчырае жаданьне: **«Хочацца, каб мова беларуская чулася ня толькі ў творчых арганізацыях, але і ў установах, школах сярэдняй і вышэйшай, каб яна была і на папяроснай каробцы, і на трактары, і на станку».**

Разам зь беларускай мовай выкідаюцца з мастацкага рэпэртуару і беларускія арыгінальныя творы. Ведамы дзеяч у галіне пашырэньня й мастацкага выкананьня беларускай народнай песьні народны артысты СССР Рыгор Шырма з горычай сьцьвердзіў, што ў некаторых калектывах беларускай мастацкай самадзейнасьці **«няма аніводнага нумару беларускага».** А гаворачы аб нацыянальнай беднасьці беларускага малярства, Шырма вельмі трапна адцеміў: **«Некаторыя майстры ў Доме творчасьці пад Масквой пішуць «беларускія» пэйзажы і ў лепшым выпадку бачаць іх з акна цягніка ці аўтобуса».** Падобна Шырме, і кампазытар Я. Цікоцкі ды сакратар Саюзу мастакоў БССР П. Нікіфараў таксама адцемілі, што беларускім мастаком і кампазытарам не хапае цеснай сувязі зь беларускай паэзіяй, якая нармальна павінна даваць матарыял для іншых галінаў мастацтва.

Той-жа кампазытар Я. Цікоцкі зрабіў закід беларускаму опэрнаму тэатру, **«кіраўніцтва якога часам неахвотна бярэцца за пастаноўку новых беларускіх опэр і аднаўленьне старых»,** выпаўняючы свой рэпэртуар вылучна расейскімі опэрамі.

Галоўны рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР Я. Казека, доктар мастацтвазнаўства Я. Кацар, Ул. Няфёд і іншыя выказалі сваё абурэньне, што кіраўніцтва Дзяржаўнага выдавецтва БССР і кнігагандлю сьвядома перашкаджаюць у выдаваньні й пашыраньні беларускіх кніжак. Я. Казека паінфармаваў аб вельмі вымоўным факце. Выдавецтва намячала выдаць сёлета двухтысячным тыражом вялікі зборнік беларускіх народных песьняў Р. Шырмы. Але кнігагандаль згадзіўся ўзяць для прадажы ўсяго толькі 150 эгзэмпляраў, і таму гэтая цэнная кніга не магла пабачыць сьвету. Із справядлівым абурэньнем Казека ставіць пытаньне: **«Няўжо ў рэспубліцы, дзе ёсьць кансэрваторыя, музычныя школы, дзе налічваецца толькі харавых самадзейных калектываў да пяці тысяч, ёсьць толькі 150 ахвотнікаў купіць зборнік народных песьняў?»**

Сабатаваньне русыфікатарскай савецкай бюракрацыяй навет элемэнтарных патрэбаў беларускага насельніцтва, як доступ да беларускае кніжкі і твораў мастацтва, такое бяспрыкладна нахабнае, што супраць такой практыкі мусіў абурыцца навет сакратар Маладэчынскага абкому Н. Южык. Ён у сваім выступленьні заявіў: **«Грамадзкасьць даўно крытыкуе такую нявартую музыку, як «Мішка». «Мішку» зьмяніў «Мой Вася». У Менскім унівэрсальным магазыне на Ленінскай вуліцы прапагандуюць такога самага «Мішку». У ўнівэрмагу ёсьць паліца беларускай музыкі, але мы не знайшлі амаль ніводнай пласьцінкі беларускай музыкі на гэтай паліцы».**

І яшчэ адзін ня менш вымоўны й паказальны факт. Із справаздачы даведваемся, што Казека падняў пытаньне «аб выданьні беларускай савецкай энцыкляпэдыі, а таксама календароў — адрыўнога, настольнага і спэцыяльных на беларускай мове». Дык гэтак выглядае «сувэрэнная», «роўная сярод роўных» беларуская савецкая рэспубліка зь «перадавой сацыялістычнай культурай», у якой няма ня толькі беларускай энцыклапэдыі, але й звычайнага календара ў беларускай мове!

Вышэй прыведзеныя выказваньні — гэта, хіба-ж, толькі частка галасоў абурэньня, якая змагла папасьці на бачыны «Літаратуры і Мастацтва». Але й гэтыя няпоўныя выказваньні вельмі-ж красамоўна характарызуюць бальшавіцкую практыку ў галіне разьвіцьця беларускае культуры, «нацыянальнай па форме і сацыялістычнай паводля зьместу». У тэорыі і дэкляратыўных прапагандовых заявах камуністычная партыя бесьперапынку хваліцца аб сваіх вялікіх клопатах аб беларускай культуры ды яе нязвычайна буйным разьвіцьці ў ейнай «нацыянальнай форме». На практыцы-ж гэтая «нацыянальная форма» штучна звужаецца, а нярэдка цалкам выпіхаецца з жыцьця й замяняецца формай расейскай.

Але сход «актыву работнікаў літаратуры і мастацтва» адкрыў і адваротны бок мэдалю. Ён паказаў, што беларускія літаратары, мастакі, музыкі і наагул працаўнікі культуры, ня гледзячы на бесьперапынныя перасьледваньні за «буржуазны нацыяналізм», ня могуць і ня хочуць пагадзіцца з такім палажэньнем. Іхныя аднагодныя й станоўчыя выступленьні ў вабароне беларускай нацыянальнай культуры — гэта ціхі, але ня менш моцны й станоўчы бунт супраць штучнага звужаньня нацыянальных формаў жыцьця і творчасьці, супраць русыфікацыі беларускае мовы, культуры й народу.

**Язэп Каранеўскі**

# Сталіца БССР Менск

**У 40-УЮ ГАДАВІНУ БАЛЬШАВІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ**

Выстралам «спутнікаў» і ракетным шумам сучасным маскоўскім валадаром удалося залатаць дзюру ў тонучым камуністычным караблі ды выклікаць прапагандовую псыхозу, быццам СССР выперадзіў Амэрыку ў тэхнічных дасягненьнях. Ведама, бальшавіком лягчэй было з ладным удзелам нямецкіх вучоных і тэхнікаў зрабіць атамную бомбу, далёкасягальныя ракеты ды пры дапамозе іх выкінуць земляабежніка, чымся забясьпечыць насельніцтва ў усякія неабходныя прадметы штодзённага ўжытку, як хлеб, мяса, сала, вопратка, абутак, жыльлё і г. д., бо самая савецкая сыстэма — крыніца няволі, галечы й гаспадарскага хаосу.

Каб ня быць галаслоўным, адхілім маленькі падолак бальшавіцкай рэчаіснасьці на аснове савецкіх публікацыяў, пайменна заглянем у сэрца сягоньняшняй БССР — сталічны Менск і паглядзім, што бальшавіцкія панявольнікі зрабілі за 40 гадоў свайго панаваньня, і ў якіх ўмовах прыходзіцца жыць тамтэйшаму насельніцтву, над галовамі якога лётаюць прапагандовыя «спутнікі» ды крыклівы шум Масквы. Нашыя дадзеныя аб Менску мы ўзялі з савецкага «Справочника-Путеводителя», выдадзенага ў канцы 1956 г. у тым-жа горадзе, а таксама з кніжкі «Народное хозяйство СССР», Масква 1956 ды «Культурное строительство СССР», Масква 1956.

### Жыхарства Менску й жыльлёвыя ўмовы

Менск цяпер налічвае 412 тыс. насельніцтва, гэта значыць амаль 2 разы больш, як перад апошняй вайной (у 1939 г. 238,7 тыс.). Ведама, так аграмадны рост сталіцы БССР адбыўся ня ў выніку нармальнага прыросту насельніцтва, тым больш, што ў часе апошняй вайны Менск быў моцна разбураны, а насельніцтва распылена, але дзеля наплыву уцекачоў з калгаснай няволі.

Аб жудаснай жыльлёвай цеснаце можна мець уяўленьне на аснове адбудаванага жыльлёвага фонду. У часе вайны было разбурана 5.975 дамоў з жыльлёвай плошчай звыш 800.000 кв. м. Інакш кажучы, ня стала жыльлёвай плошчы для 133,3 тыс. людзей (лічачы 6 кв. м. на асобу згодна з савецкім разьмяркавальнікам). У 1956 годзе, за 10 паваенных гадоў, быў адбудаваны толькі перадваенны стан, гэта значыць здольны памясьціць у казармавых умовах каля 240 тыс. людзей. Перавыпаўненьне бальшавіцкага пляну аднак адбылося па лініі татальнага пералюдненьня, бо ў даваенную жыльлёвую плошчу Менску памешчана яшчэ 200 тыс. людзей.

Да агульнага жыльлёвага голаду дадаць трэба поўны недахоп гатэляў-гасьцінніцаў. У Менску на сяньняшні дзень існуюць толькі два невялічкія гатэлі (50—80 нумароў) для савецкіх грамадзянаў, пайменна І-я савецкая гасьцінніца, Камсамольская вул. 13, і 2-я савецкая гасьцінніца, Валадарскага 6. Апрача гэтага, дзейны гатэль «Беларусь» пераважна для замежных гасьцей (Кірава 15), гатэль для партыйных пры ЦК КПБ (Кірава 43) і гатэль для ахвіцэраў чырвонай арміі, Чырвонаармейская 3.

### Памеры адбудовы сталіцы БССР

Аб памерах савецкай адсталай будаўлянай тэхнікі можна пераканацца, глянуўшы на ход адбудовы. Перш за ўсё ўсюды наглядаецца недахоп будаўляных машынаў, і зямныя работы адбываюцца ручным спосабам. Увесь высілак адбудовы кінены быў на б. Савецкую вуліцу й зьвязаныя зь ёй найбліжэйшыя суседнія пункты, як пляцы й паркі. За 10 гадоў бальшавікі здолелі адбудаваць адрэзак ад вуліцы Сьвярдлова да Доўгабродзкай, ставячы паводля галоўнага пляну адміністрацыйныя, грамадзкія й жыльлёвыя будынкі. Другі адрэзак, — ад Доўгабродзкай вуліцы да выхаду на Маскоўскую шасу знаходзіцца ў працэсе будаваньня.

На іншых частках гораду адбудавальныя працы зусім мінімальныя ды канцэнтруюцца на будаўніцтве дзяржаўных і публічных установаў, паркаў, стадыёну, басэйну і інш.

Вышыня публічных будынкаў — 4 паверхі, жыльлёвых — 5 паверхаў. Яны разьмешчаныя паводля архітэктурных рысункаў уздоўж шырокай задрэўленай алеі ды суседніх пляцаў і паркаў, у якіх расстаўленыя памятнікі розным маскалём, як напр. Дзяржынскаму, Горкаму, Леніну, Пушкіну і г. д. Гэтаксама амаль усе вуліцы сталіцы названыя імёнамі расейскіх бальшавікоў, або ведамых расейскіх патрыётаў, як напр. Горкага, Пушкіна, Ульянаўская, Варашылава, Сталіна, Захарава, Мясьнікава, Бакуніна, Чкалава, Маякоўскага і г. д. Нават на памятніку ў чэсьць Купалы маскалі як-бы на ганьбу беларускаму народу памясьцілі расейскі падабраны служальчы тэкст:

И из Кремля дорогой ясной,
Всемирным шляхом человечьим,
Идет Коммуны день прекрасный,
Чтоб нашу радость, наше счастье
На всей земле увековечить.

### Здаровяахоўныя ўстановы

Перад вайной у 1940 г. пры насельніцтве 238,7 тыс. чалавек было дзейных 14 шпіталяў з 2 925 ложкамі. Апрача таго у месьце дзейнічылі 5 дзіспансэраў, 17 клінікаў, 6 дзіцячых прыймовых пунктаў і гэткіх 48 для дарослых. У тым-жа годзе налічвалася 890 лекараў ды 1 418 асобаў з сярэдняй мэдыцынскай падрыхтоўкай.

За 10 гадоў крыклівай адбудовы маецца 11 шпіталяў з 3 860 ложкамі, 10 дзіспансэраў і 13 клінікаў ды каля 100 пунктаў першай помачы. Усяго працуе 1 699 лекараў, 203 дантыстаў і 2 642 чал. сярэдняга мэд. пэрсаналу. На першы ўзгляд выглядае рост мэдыцынскай апекі, але калі мы возьмем пад увагу **падваеньне насельніцтва,** то апека гэтая далёка недастатковая і меншая ад даваеннай.

### Гандлёвая сетка

Добрым паказьнікам дабрабыту гораду й ягонага жыхарства ёсьць гандлёвыя пункты, у якіх людзі могуць атрымаць неабходныя тавары. Бальшавікі за 40 гадоў свайго панаваньня ніяк ня могуць зьліквідаваць аграмадных «хвастоў» — чэргаў перад крамамі. Не гаворачы аб тым, што ўсьцяж пануе недахоп тавараў шырокага запатрабаваньня, вопраткі, абутку і г. д., то і лік крамаў ёсьць вельмі малы. Так напрыклад усяго налічваецца 100 крамаў харчавых прадуктаў ды 50 пунктаў для прадажы хлеба, або адна крама на 4 тыс. жыхарства, калі ў Амэрыцы ёсьць адна крама на 400 чалавек насельніцтва. Зь іншых магазынаў існуюць **толькі па аднаму:** на рагу вуліцаў Сталіна й Леніна — найбольшы на ўсю БССР унівэрмаг — чатырохпавярховы будынак сярэдняй вялічыні, якіх поўна ў амэрыканскіх мястэчках, дзе тэарэтычна можна купіць усякія рэчы хатняга карыстаньня. Апрача гэтага адзін магазын гатовай вопраткі, адзін абутку, адзін трыкотных вырабаў, мэбляў, цацак, музычных інструмантаў, тэкстыльных вырабаў, кветак і некаторыя іншыя.

Лёгка сабе ўявіць, якія мусяць быць недасягальныя хвасты перад такімі кра-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

Ўдаль яны памкнулі, і лятуць пад імі
Нівы ды балоты, поле, бор, лука.
Але што там блішча? Ці ня ты, сястрыца,
Ці ня ты ліешся, срыбная рака?

Загрымелі ў хмарах гулка прывітаньні
І далёка буйны разьнёс.
Рынуліся хмары да ракі радзімай
І зьліліся зь ёю ўлевай кропляў-сьлёз.
1912

* * *

Ой, чаму я стаў паэтам
Ў нашай беднай старане?
Грудзі ныюць, цела вяне,
А спачыць ня можна мне:
Думкі з розуму ліюцца,
Пачуцьцё з душы бяжыць...
Мо за імі кроў пальне,
І тады ўжо досі жыць!
1912

* * *

Даўно ўжо целам я хварэю,
І хвор душой, —
І толькі на цябе надзея,
Край родны мой!
У родным краі ёсьць крыніца
Жывой вады.
Там толькі я змагу пазбыцца
Свае нуды.
Калі-ж у ім памру-загіну, —
Ня жалюсь я!
Ня будзеш цяжкая ты сыну
Свайму, зямля.
Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
Там пад зямлёй,
Знайдуць мае слабыя грудзі
Сабе спакой.
1912

* * *

Калі зваліў дужы Гэракл у пыл Антэя,
Як вецер валіць поўны колас да ральлі, —
Ўдыхнула моц у грудзі сына маці Гэя,
І вось, цьвярды, як дуб, ён больш яшчэ дужэе, —
Ды, напружыўшыся, падняўся ўраз зь зямлі.

Паломаны жыцьцём, чакаючы магілы,
Радзімая зямля, прынікнуў я к табе,
Бадзёрасьць ты ўліла ў слабеючыя жылы,
Зварушыла мае душы драмлівай сілы,
І месца ў ёй з тых пор няма ўжо больш жальбе.
1910

* * *

Бледны, кволы ўсё-ж люблю я
Твой і мудры і кіпучы верш, Анакрэон!
Ён у жылах кроў хвалюе,
Ў ім жыцьцё ручайкай плешча,
Вее хмелем ён.

Верш такі — як дар прыроды,
Вінаграднае, густое, цёмнае віно:
Дні ідуць, праходзяць годы, —
Але ўсё мацней, хмялёвей робіцца яно.
1910

* * *

... passe sans laisser même
son ombre sur le mur.
V. Hugo

Жывеш ня вечна, чалавек, —
Перажыві-ж у момант век!
Каб хвалявалася жыцьцё,
Каб больш разгону ў ім было,
Каб цераз край душы чуцьцё
Ня раз, ня два пайшло!

Жыві і цэльнасьці шукай,
Аб шырыні духовай дбай.

І ў напружэньні паўнаты
Свайго шырокага жыцьця
Бяз болю, ціха зойдзеш ты
Ў краіну забыцьця.
1911

* * *

Мудрай прамовы
Мёд залацісты,
Поўныя соты
Мне даспадобы;

Але ня меней
Сэрцу панадны
Мёд сваім хмелем
Сьветлым і тонкім.
1911

* * *

Дзе вы, лясоў, палёў кветы?
Вас холад загубіў!
Чаму-ж ён срыбныя кветы
На гэтым шкле ўзрасьціў?

Ім, бледным, мёртвым, ня збудзіць
Былога пачуцьця,
Як не змагу яго збудзіць
Халодным вершам я.
1911

(Далей будзе)

# Зь беларускага жыцьця

## БЕЛАРУСКІ КАТЭДРАЛЬНЫ САБОР У НЬЮ ЁРКУ

На 7-ым кангрэсе Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, што адбыўся ў чырвені сёлета, яшчэ раз валкавалася справа набыцьця свае царквы й народнага дому ў Нью Ёрку. Яшчэ раз пачыналася ўсё ад пачатку, і яшчэ раз намагалася разьвязаць праблему, так важную для беларускага грамадзкага жыцьця. І ўрэшце разьвязалася.

15 кастрычніка 1957 г. Камітэт набыцьця Царквы й Беларускага Народнага Дому ў Нью Ёрку (старшыня — сп. М. Тулейка) купіў за 25 тысяч даляраў будынак, гатыцкага стылю, на аднэй з галоўных вуліц Брукліну, часткі Нью Ёрку (зь вельмі добрым даездам з усіх канцоў). У будынку, памерам 12 на 25 мэтраў, наверсе — царква, а ўнізе (партэр) — заля й тры пакоі. Будынак, праўда трэба рамантаваць, прывесьці да належнага парадку, але за гэта людзі дружна ўзяліся, працуючы тут па сыботах, і няма сумлеву, што неўзабаве ўсё будзе наладжана.

27 кастрычніка ў нованабытым царкоўным будынку — Беларускім Катэдральным саборы Сьв. Кірылы Тураўскага — адбылася першая сьв. Літургія, адслужаная Яго Высокапрэасьвяшчэнствам Уладыкам Васілём у саслужэньні настаяцеля беларускага прыходу БАПЦ ў Нью Ёрку а. мітрафорнага пратаярэя Хведара Данілюка.

3 лістапада былі адсьвяткаваныя ўрачыстыя ўваходзіны: Літургіяй і малебенам удзячнасьці — Яго Высокапрэасьвяшчэнства Архіяпіскап Васіль у саслужэньні Высокадастойных айцоў Хведара Данілюка, Сьцяпана Войтэнкі й Рамана Мельнічэнкі — і сьвяточным сходам з супольным пачастункам. У часе багаслужбы пяяў злучаны царкоўны хор (Нью Ёрк — Нью Брансўік) пад кіраўніцтвам сп. А. Каптуровіча. Маэстро П. Конюх выканаў солё «Спаси Господи, люди Твоя» і «Ныне отпущаеши раба Твоего».

Людзі неяк пабадзёрылі. У шмат каго зьявілася йзноў ахвота й энэргія да працы. Шмат хто йзноў выказаў сваю шчодрасьць: толькі ў нядзелю 3-га лістапада было сабрана каля паўтары тысячы даляраў на сплату будынку, што станецца цэнтрам рэлігійнага й грамадзкага жыцьця ў Нью Ёрку. Бадзёрасьць гэтую і шчыльнейшую задзіночанасьць адчуў кажны, хто прыйшоў памаліцца Богу ў сваёй царкве. І ці не найлепш адчуў яе Ўладыка Васіль, які вынес на сабе галоўны цяжар даўгога пераходнага пэрыяду.

## ЗЬ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ У НЬЮ ЁРКУ

Восеньскі сэзон працы ў поўным ходзе. Сыботы й нядзелі — на расхват. А іншыя нат і сярод тыдня ўхітраюцца — вечарамі так, пасьля працы. І пэўна-ж, гораў не варочаецца, але ўсё-ткі ёсьць рытм, ёсьць упорыстасьць, ёсьць пульс грамады.

Працы шмат — штодзённае, шэрае, няўдзячнае. Адлегласьць, раськіданасьць могуць разарваць чалавека. Тут ня так, як у Мюнхэне, што схапіў таксі і скараціў у дзесяць разоў дарогу. За рэштку дня больш аднае справы ня зробіш. Але неяк робіцца. Вынікаў гэтае працы стае пакуль што і на сябе саміх і на тараканоў крышку.

☆

**Беларуская вечарына.** 5 кастрычніка стараньнем акруговае ўправы БАЗА ў Нью Ёрку была наладжаная беларуская вечарына з мэтай папаўненьня касы акруговага аддзелу (адзін з выпрабаваных спосабаў). Гэткія імпрэзы бываюць тут не зачаста, і таму кажны вітае іх, а шмат хто й карыстае зь іх: нагода патанцаваць — для маладзейшых, памяняцца навінамі — для старэйшых, выпіць па кілішку — для тых, што даўно ня бачыліся. На праграме гэтым разам: кветкі кавалерам, лятарэя ахвотнікам шчасьця і крыху нясуладная «Лявоніха» ў вагульным выкананьні.

☆

**У БІНіМ-е пачаўся «зімовы сэзон».** Традыцыйнымі ўжо ўражаньнямі з падарожжа на мюнхэнскую канфэрэнцыю Інстытуту Вывучэньня СССР падзяліўся зь сябрамі БІНіМ-у сп. А. Адамовіч. Аб вечары гэтым дакладчык відаць, думаў яшчэ выбіраючыся ў дарогу ў Мюнхэн, ды прадбачваючы цікавыя сустрэчы па дарозе туды й назад. І зрабіў вельмі правільна з гледзішча на сябе й на слухачоў: яму гэтым разам давялося проста чытаць свой падарожны дзёньнік (вядзецца толькі ў дарозе), а слухачом уважліва сачыць за рэфлексіямі падарожніка ў дачыненьні да розных праблемаў жыцьця: патрыятызму й шавінізму, музыкі й паэзіі, эміграцыі й бацькаўшчыны. Цікава, бяссумлеўна. Ня зь меншым зацікаўленьнем калісьці й **прачытаецца** ўсё гэта.

Вечар гэты, адкрыцьцё зімовага сэзону летнімі ўражаньнямі, быў у «Хатцы» — 19 кастрычніка.

☆

**Канфэрэнцыі «Руні».** Айцец др. Ч. Сіповіч, які ў канцы верасьня прыехаў на колькімесячны пабыт у ЗША, 26 кастрычніка зрабіў для сяброў Беларускага Акадэмічнага Каталіцкага Аб'еднаньня «Рунь» і для ўсіх, каго гэта цікавіла, тры паўгадзінныя рэфэраты на тэмы: І. Рэлігія й ейныя сутныя элемэнты; 2. Сучасныя плыні ў Каталіцкай Царкве і 3. Патрэба больш інтэнсыўнае рэлігійнасьці як у прыватным жыцьці, гэтак і ў жыцьці народу.

☆

**Беларуская мова ў Катэдры Сьв. Патрыка.** 27 кастрычніка ў найбольшай каталіцкай сьвятыні Амэрыкі — катэдры Сьв. Патрыка ў Нью Ёрку — першы раз было прачытанае Эвангельле пабеларуску й пачутае беларускае казаньне.

Сьвятую Імшу адслужыў а. Ч. Сіповіч для вялікае колькасьці зьбраных Беларусаў-каталікоў Нью Ёрку й ваколіц. Багаслужба мела месца ў капліцы Найсьвяцейшае Дзевы Марыі за галоўным аўтаром Катэдры Сьв. Патрыка. Імша была адслужаная за Беларусь і ейны народ.

☆

**Аднаўленьне беларускага хору.** Па лініі падрыхтоўкі да ўрачыстасьці Дня Гэрояў (Слуцкага Паўстаньня), што мае адбыцца 1-га сьнежаня, у Нью Ёрку аднавіў сваю працу сьвецкі хор, спачатку пад кіраўніцтвам сп. М. Тулейкі, а цяпер — сп. А. Каптуровіча. Царкоўны хор (пад тым-жа кіраўніцтвам, але крыху ў іншым складзе) таксама аднавіў свае рэгулярныя заняткі, але, нажаль, пакуль што не заўсёды пры рэгулярным наведваньні некаторых харыстых. Будзем спадзявацца, аднак, што цяпер ,дзякуючы Беларускаму Катэдральнаму Сабору, хор гэты ўстабілізуецца і сваім добра апрацаваным выкананьнем сьпеваў станецца вельмі важным упрыгожаньнем Божых службаў. Пажадана таксама, каб сьвецкі хор таксама замацаваўся сваім складам ды працягваў рэгулярныя заняткі й выступленьні прынамся да летняга перапынку.

**Я Запруднік**

## Адказы Рэдакцыі

**Сп. М. Белямуку. Кліўлэнд, ЗША.** Ваш ліст з 14. 11. 1957 будзе разгледжаны на найбліжэйшым паседжаньні Рэдкалегіі, аб пастанове якой Вы будзеце паведамлены асобна. Ваш праект выданьня «Віцяў» друкам пры «Бацькаўшчыне» правільны і ягоная рэалізацыя ня выклікала-б ніякіх засьцярогаў, калі-б матарыяльнае палажэньне нашага Выдавецтва было прынамся такое, як яшчэ зусім нядаўна. Нажаль, гэтае палажэньне апошнім часам значна пагоршылася й няма надзеі на ягоную хуткую паправу. У сувязі з гэтым, здаецца, прыдзецца спыніць і выдаваньне асобных кніжак пры «Бацькаўшчыне». Таму мала надзеі, каб Рэдкалегія знайшла магчымасьць ажыцьцявіць Ваш праект у справе «Віцяў», пакуль не направіцца матарыяльнае палажэньне нашага Выдавецтва.

**Праф. др. Я. Станкевічу. Нью Ёрк, ЗША.** Артыкул «Імсьціслаў Харобры і Імсьціслаў Удалы» атрымалі, за які моцна дзякуем. Трохі пазьней надрукуем яго падвалам у газэце.

**Сп. К. Акулу. Торонто, Канада.** П'есу «Камэльён» атрымалі й перадалі на ацэну спэцыялістаму-літарату. У выпадку пазытыўнае ацэны зьмесьцім падвалам у газэце, як толькі скончым друкаваньне твораў М. Багдановіча. З прычыны пагоршаньня матарыяльнага палажэньня нашага Выдавецтва, выданьне другога альманаху твораў эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў пакуль што не прадбачыцца.

**Сп. Пранцішу Скарыначцы. Нью Ёрк, ЗША.** Вашага «Ліста ў Рэдакцыю», нажаль, зьмясьціць ня можам з наступных прычынаў: 1. на некаторыя пытаньні, у ім закранутыя, была ўжо такая-ж самая рэакцыя ў надрукаваным у № 46 «Бацькаўшчыны» фэльетоне «Аб юбілеі, падзяках, падпішчыках і іншым...»; 2. шмат якія выражэньні, ужытыя ў Вашым «Лісьце ў Рэдакцыю», могуць быць абразьлівымі для асобаў, аб якіх там мова.

**Сп. Міхасю Козыру. Торонто, Канада.** Ваш фэльетон «Паслаў сабака сабаку...» для нашае газэты якраз не падходзіць. Але эвэнтуальныя іншыя Вашыя фэльетоны будзем, як і дагэтуль, зьмяшчаць ахвотна.

## Сталіца БССР Менск

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

мамі, калі падкінецца тавар, напр. абутак, тэкстыльныя вырабы і г. д., а ў горадзе на больш за 400 тыс. насельніцтва ёсьць толькі па адным магазыне!

Калі вы хочаце пад'есьці, то гэта ў Менску ня лёгкая справа. У сталіцы налічваецца ўсяго 7 рэстаранаў: Фабрыка-кухня, «Беларусь», «Зара», «Лета», «Нёман», «Мінск» і на менскім лётнішчы; 6 кафэйных («Вясна», у унівэрмагу, «Отдых», «Театральное» ды № 1 і № 2 на вул. Валадарскага і Калініна).

Навет купіць газэту ня так проста. У горадзе існуе толькі 40 кіёскаў «Саюзпячаці». А ўжо дастаць таксоўку — хутчэй зайсьці пехатой, бо... ёсьць толькі дзьве стаянкі таксовак: на вакзале ды на пляцу Я. Коласа.

### Культурныя ўладжаньні

Бальшавікі, як не адзін народ у сьвеце, хваляцца аб быццам вялізарных культурных уладжаньнях для працоўнага народу. Гэта голае пустаслоўе. У Менску хопіць зысьці крыху на бок ад галоўнай вуліцы, каб пабачыць старыя рудэры, хаты на курыных ножках, буды без вады й санітарных уладжаньняў. Ваду ўсьцяж прыходзіцца насіць каромісламі із студняў ды карыстацца панадворкавымі патрэбнікамі. Адзіным высілкам бальшавікоў ў пасьляваенным часе ды і раней было ўтварэньне парку «Победа» за горадам на 204 гэктарах зямлі із штучным возерам. Тут-жа пабудаваныя розныя будынкі на публічныя клюбы, тэатральная вышка, кіёскі і г. д., але ўсё гэта далёка да ўзроўню заходняэўрапэйскіх культурных уладжаньняў. Нямашака тут ні заалягічнага, ні батанічнага парку, няма «вясёлага мястэчка», і г. д.

Апрача названага парку, ёсьць яшчэ два іншыя: парк Горкага (б. губэрнатарскі сад) вялічынёй ў 15 гэктараў зь «Зялёным тэатрам» і парк Чалюскінцаў пры маскоўскай шашы, павялічаны ў 1945 г. да 56 гэктараў, але гэты апошні ўсьцяж знаходзіцца ў працэсе пабудовы, і апрача летняй эстрады, надворнага кінаэкрану і кіёска з напіткамі нічога асаблівага ня мае.

### Тэлевізія й тэатры

Прымітывізм і тэхнічную беднату наглядаецца асабліва ў тэлевізіі. Ад 1 студзеня 1956 г. (толькі!) дзейнічае мініятурная менская тэлевізыйная студыя пры вуліцы Калініна 6. Аб прымітывізьме й беднаце яе сьветчыць, што ёсьць адна тэлекінапраекцыйная апаратура, якая можа паказываць толькі кінафільмы. Уся студыя спачатку памяшчалася ў маленькім пакоіку, а ад травеня 1956 у крыху большым на 100 кв. мэтраў. Далейшым «дасягненьнем» бальшавіцкіх крыкачоў быў здабытак адной тэлевізыйнай камэры, перад якой адбываюцца канцэрты, лекцыі, інсцэнізацыі і г. д. Аднак недахоп большай залі, прынамся яшчэ адной камэры стварае ўмовы нябывалага прымітывізму тэлевізіі. Таксама няма рухомай тэлевізыйнай апаратуры для выезду паза студыю.

Што датычыць перамальных хатніх тэлеапаратаў, то іх прадукуе менскі «радыёзавод» (б. віленская хвабрыка «Тэлефункэн») двух тыпаў: «Беларусь 56» з 12 цалёвай тубай і «Беларусь 2» камбінаваны тэлевізар з радыёапаратам і грамафонам) з 14 цалёвай тубай. Цана на гэтыя апараты высокая і недаступная для звычайнага работніка: «Беларусь 56» каштуе 1 800 руб., а «Беларусь 2» — 2 500!

Тэатраў ёсьць многа: Вялікі тэатр опэры й балету, Акадэмічны тэатр ім. Янкі Купалы, Рускі драматычны тэатр БССР ім. Горкага, Тэатр маладога гледача, Дзяржаўны тэатр лялькаў БССР. Апрача таго, існуе харавая капэльля Беларускай ССР Р. Шырмы, Беларускі дзяржаўны народны хор Г. Цытовіча, Беларуская дзяржаўная фільгармонія, Менскі дзяржаўны цырк ды стадыён «Дынама». Усе гэтыя шматлікія ўстановы — **прыладзьдзе русыфікацыі,** таму асабліва падтрымліваныя бальшавікамі.

Гэткім прыладзьдзем русыфікацыі зьяўляюцца таксама кінатэатры, якіх вельмі мала, бо толькі 8: «Цэнтральны» на 480 крэслаў, «Дзіцячы» — 200 месцаў, «Першы» — 485, «Навіны дня» — 200, «Зорка» — 300. У парках у летні час дзейныя кінатэатры «Беларусь», «Радуга» і «Летні». Менская кіностудыя, якая ўзнавіла сваю працу ад 1945 г., ніяк ня можа разгарнуць сваёй дзейнасьці з прычыны недахопу тэхнічных уладжаньняў і патрэбных грошай. У пасьляваенны час накручаныя невялічкія фільмы «Новы дом», «Канстантын Заслонаў», «Савецкая Беларусь», «Белавеская пушча», «Паўлінка», «Пяюць жаваранкі», «Хто сьмяецца апошнім», «Дзеці партызана», «Несьцерка».

Як бачым, бальшавіцкія «дасягненьні» за 40 гадоў крывавага панаваньня ды 10 гадовай паваеннай адбудовы ніяк нельга параўняць з «гнілым капіталістычным захадам», у якім напр. Заходняя Нямеччына за 10 гадоў ня толькі адбудавала поўнасьцю разбураныя гарады, але заняла зноў вядучае месца ў эўрапэйскай прадукцыі. Ці савецкія «спутнікі» здолеюць прысланіць нутраную слабасьць Маскоўшчыны й акупаваных ёй краінаў, эканамічную галечу, партыйную грызьню, агульнадзяржаўны хаос і агульную адсталасьць — трэба сумлявацца.

**Мікола Волацiч**

# Да ўсіх Беларусаў

**Дарагія Суродзічы!**

Для бальшыні з нас мінула ўжо дванаццаць год ад таго часу, калі мы пакінулі Беларусь, каб шукаць новых шляхоў жыцьця й змаганьня, новых магчымасьцяў і далей ходацца з чырвоным камунізмам, што тады яшчэ раз паняволіў нашую Бацькаўшчыну.

Ці мала гора пазналі мы па розных закутках і лягерах, пакуль паўладжваліся ў вольным сьвеце. Прыйшлі мы ў гэты вольны сьвет як палітычныя эмігранты, шукаючы ў ім не дабрабыту, а шляхоў да змаганьня як мага за вызваленьне Беларусі.

Зусім аб'ектыўна трэба сьцьвердзіць, што прамінулых гадоў мы тут не змарнавалі, бо вольны сьвет, які рыхтуецца да загрудкаў з камунізмам, ведае ўжо й нашую праблему змаганьня за незалежнасьць. Нельга аднак не адзначыць, што дасягненьні ў нашай палітычнай працы маглі-б быць куды большыя й лепшыя, калі-б кажны з нас, палітычных эмігрантаў, шчыра выкарыстоўваў усе магчымасьці й свае здольнасьці для справы папулярызацыі беларускае незалежніцкае ідэі.

Аднак, нажаль, трапляюцца між намі й такія адзінкі, што, здабыўшы сабе матар'яльны дабрабыт, забыліся зусім на незалежніцкую ідэю. Здараюцца й гэткія, што чураюцца сваіх грамадзкіх ці палітычных арганізацыяў, быццам не пагаджаючыся зь іхнаю палітыкай, а запраўды — дзеля таго даляра ці фунта, якога час-часом просяць гэтыя арганізацыі.

Кажная грамадзкая, а пагатоў палітычная праца патрабуе паважных фінансавых рэсурсаў. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі ўжо колькі год таму стварыла ФОНД БНР, што зьбірае ахвяры ад усяе беларускае палітычнае эміграцыі. Дзякуючы ахвярнасьці бальшыні нашых суродзічаў, каса Фонду БНР можа пакрываць хоць сама канечныя выдаткі, зьвязаныя зь дзейнасьцяй Рады БНР.

Набліжаюцца 40-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Уся наша эміграцыя як мага стараецца штогоду ўрачыста адзначыць дзень 25 сакавіка, а 40-ыя ўгодкі яго напэўна пастараецца адсьвяткаваць як найбольш урачыста.

Дык Сакратарыят Фінансаў Рады БНР гэтым зьвяртаецца да ўсяе беларускае эміграцыі з просьбай канкрэтна прычыніцца да гэтага адзначэньня 40-ых угодкаў незалежнасьці Беларусі празь фінансавае падтрыманьне Фонду БНР. Кажны суродзіч, падтрымваючы фінансава Фонд БНР, гэтым самым дапоможыцца да стварэньня лепшых магчымасьцяў для дзеяньня органаў БНР, якія, не зважаючы на ўсе цяжкасьці й перашкоды, упорыста працуюць на дабро нашае незалежніцкае ідэі.

Панявольнік Беларусі, маскоўскі камунізм, ужо ад году рыхтаваўся да адзначэньня 40-ых угодкаў свае кастрычніцкае рэвалюцыі. Нашыя суродзічы на Бацькаўшчыне, жывучы ў ведамых нам абставінах, змушаюцца да катаржнае стаханаўшчыны ў зьненавіджаных калгасах. Паэтаў і пісьменьнікаў турацъ на заказ выхваляць «райскае жыцьцё». Рыхтаваньне да 40-ых угодкаў таго кастрычніка каштавала нашым суродзічам шмат здароўя, гора й сьлёзаў. І адна там надзея ў іх на Бацькаўшчыне на нас, на беларускую палітычную змагарную грамаду ў вольным сьвеце.

Сакратарыят Фінансаў Рады БНР ветліва просіць кажнага Беларуса й кажную Беларуску, што працуюць і зарабляюць на эміграцыі, канкрэтна прычыніцца да адзначэньня 40-ых угодкаў 25 сакавіка, што неўзабаве надыходзяць. Няхай кажны зробіць магчымы яму грашовы ДАР САКАВІКА ў Фонд БНР, прычыняючыся гэтым самым да забясьпечаньня большых магчымасьцяў для карысьнейшага й шырэйшага дзеяньня органаў БНР.

Ахвяры Дару Сакавіка будуць зьбіраць па беларускіх асяродках на падпісныя лісты прадстаўнікі Фонду БНР.

Суродзічаў, што пражываюць паза беларускімі асяродкамі й да якіх прадстаўнік Фонду БНР ня зможа дайсьці з падпісным лістом, просіцца ветліва слаць ахвяры на адрыс аднаго зь ніжэй пададзеных скарбнікаў Фонду БНР.

**(—) В. Кажан**
**Скарбнік Рады БНР**

Адрысы скарбнікаў Фонду БНР:

Mr. V. Kazan, 56 Lockwood Ave. Stamford, Conn. USA.

Mr. K. Akula, 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont. Canada.

Mr. A. Laszuk, 174, Finborough Rd. London S. W. 10, England.

Z. B. V., 1, Swift Street, Northcote, Victoria, Australia.

## БЕЛАРУСКІЯ ПЕСЬНІ Ў АМЭРЫКАНСКІМ ВЫДАНЬНІ

Як даведалася наша газэта, амэрыканскае нотнае выдавецтва Summy-Birchard Publishing Company падпісала кантракт з кампазытарам Міколам Куліковічам на апублікаваньне й выданьне друкам ў ангельскай мове ягоных апрацовак беларускіх (ёсьць і іншыя, але ў васнаўным беларускія) народных песьняў, зь якіх у першую чаргу выйдуць: 1. «Аб галубінай кнізе» (Book of the Pigeon), — духоўны верш беларускіх лернікаў, 2. «Перапёлка» (Weife of the Guail), 3. «Каляда» (A Carol) і 4. «Баба Еўка» (Market Place).

Гэтыя свабодныя мастацкія апрацоўкі вызнаныя музычнай камісіяй выдавецтва, як вылучна арыгінальныя й высокаякасныя, як паводля народнасьці, гэтак і з гледзішча на мастацкае апрацаваньне.

Выдавецтва Summy and Co. здабыло сабе папулярнасьць на выданьні твораў розных аўтараў сьвету й абслугоўвае наймацнейшыя музычныя арганізацыі й карпарацыі ў Амэрыцы, асабліва музычныя адзінкі пры унівэрсытэтах, календжах, сярэдніх школах, грамадзкіх установах (легіянэры, вэтэраны, музычна-вакальныя таварыствы і г. д.).

Трэба спадзявацца, што ў бліжэйшым часе амэрыканская грамадзкасьць будзе знаёміцца з нашай своеасаблівай і прыгожай беларускай народнай песеннасьцяй, пазнае ейны характар і музычныя вартасьці.

## „Рэгабілітацыя“ Уладыслава Галубка

Газэта «Літаратура і Мастацтва» ў № 90 за 13 лістапада сёлета зьмясьціла наступную абвестку Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру Акадэміі Навук Беларускай ССР:

«Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру АН БССР пачаў зьбіраць архівы Трэйцяга беларускага дзяржаўнага тэатру і дзеяча беларускага мастацтва Ул. І. Галубка.

Усіх асоб, якія маюць матарыялы, зьвязаныя з дзейнасьцю гэтага тэатру і яго кіраўніка Ул. Галубка (п'есы, пісьмы, фатаграфіі і г. д.), просяць прадставіць іх ці паведаміць аб іх наяўнасьці сэктару гісторыі, кіно і музыкі інстытуту».

З гэтае зацемкі бачым, што прыйшла пара на «рэгабілітацыю» й Уладыслава Галубка, хаця яна па імені й не называецца, а сарамліва замоўчваецца. Уладыслаў Галубок, народжаны ў 1882 годзе ў Менску, быў выдатным беларускім літаратурным і тэатральным дзеячом: драматургам, рэжысэрам, акторам, таленавітым тэатральным арганізатарам і мастаком. Ягоная літаратурная дзейнасьць пачалася ў пэрыядзе нашаніўскім, але асабліва буйна разгарнулася ў БССР у дваццатых гадох. Створаны ім у 1920 годзе Беларускі Вандроўны Тэатр (у цытаванай зецемцы «Трэйці беларускі дзяржаўны тэатр» (быў найбольш папулярным у Беларусі. Нацыянальна-вызвольныя й адраджэнскія ідэі ягонага рэпэртуару, як і глыбокая народнасьць зьявіліся прычынаю арышту Галубка ў 1936 годзе й абвешчаньня яго «ворагам народу». Быў высланы ў канцэнтрацыйны лыгер Сярэдняй Азіі, пасьля чаго пра ягоны лёс ня было вестак. Як можна судзіць на падставе зьмешчанай вышэй абвесткі, Галубок сяньня ня жыве.

Да найбольш папулярных і цэнных ягоных драматычных твораў трэба залічыць «Апошняе спатканьне», «Плытагоны», «Пісаравы імяніны» й інш.

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.